15 ЧЭРВЕНЯ 1999г. АЎТОРАК

# НАВІНЫ

№65 (596) КОШТ СВАБОДНЫ




стар.4

# Цёмная справа

## Падчас вынясення прысуду па справе Мікалуцкага ў зале суда не было нават сваякоў асуджаных

**Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ**

У мінулую пятніцу быў абвешчаны прысуд тром жыхарам Магілёва, якія праходзілі па справе аб забойстве Яўгена Мікалуцкага і падрыхтоўцы замаху на прэзідэнта Лукашэнку. Віктар Янчэўскі быў прызнаны вінаватым па шэрагу артыкулаў крымінальнага кодэкса, у тым ліку бандытызм, падрыхтоўка тэракта і наўмыснае забойства. Янчэўскі сябе вінаватым не прызнаў, але суд знайшоў ягоную віну даказанай і даў яму 11 гадоў калоніі строгага рэжыму з канфіскацыяй маёмасці. Адправіцца ў турму і Анатоль Гаўрылаў. Яго таксама прызналі ўдзельнікам бандыцкай групоўкі, якая займалася падрыхтоўкай тэрактаў ды іншымі злачынствамі. Усяго Гаўрылаву прыйдзецца правесці за кратамі 5 гадоў. Па звестках, ён спадзяваўся на вызваленне ў зале суда. Гэтага дачакаўся толькі Раман Радзікоўскі. Суд прызнаў Рамана вінаватым па 213-м артыкуле КК, звязаным з незаконным захаваннем зброі, і прысудзіў яму чатыры гады, але дзякуючы таму, што ён чарнобыльскі ліквідатар і падпадае пад амністыю, Радзікоўскага вызвалілі ў зале суда.

Як абвясціў суддзя Фёдар Чубкавец, прысуд канчатковы і пад абскарджванне не падпадае. Між тым на працэсе так і не было высветлена, хто ж замовіў забойства прэзідэнцкага кантралёра Яўгена Мікалуцкага. Паводле інфармацыі Вярхоўнага суда, узбуджаная новая крымінальная справа, якая і павінна адказаць на гэтае прынцыповае пытанне.

Атрымліваецца, двух чалавек адправілі ў турму, аднаго пратрымалі амаль два гады ў ізалятары, а хто і навошта загадаў ім знішчыць Мікалуцкага, так і невядома. Узнікаюць сумненні — а ці сапраўды гэты загад выканалі тыя, на каго зараз паказвае пальцам суд? І ўвогуле, ці не сведчаць шматлікія нестыкоўкі ў гэтай справе на карысць таго, што сапраўдныя забойцы Мікалуцкага гуляюць на волі?

### Заслона сакрэтнасці

Паказальная атмасфера звышсакрэтнасці, якая ўвесь час суправаджала гэты працэс. Быццам бы з-за таго, што на працэсе будуць закранутыя нейкія дзяржаўныя тайны, яго ад пачатку абвясцілі закрытым. У тым ліку і маці абвінавачаных у суд не пускалі. Трымалі язык за зубамі і адвакаты. Гэтак моцна, што нават не паведамілі родным абвінавачаных, калі адбудзецца абвяшчэнне прысуду. Прэс-служба Вярхоўнага суда сцвярджае зараз, што менавіта адвакаты павінны былі паінфармаваць родных і быццам бы гэта зрабілі. Родныя абураюцца. Нявеста Радзікоўскага Наташа і маці Гаўрылава Яўгенія Іванаўна заяўляюць, што іх з'арыентавалі «прыкладна на панядзелак». Гэтак жа абышліся і з маці Янчэўскага. Ёй увогуле паралі «не займацца плёткамі і нікому не званіць». Што ў выніку? Паводле закона, пасля абвяшчэння прысуду родныя маюць гадзіну для сустрэчы і размовы з асуджаным непасрэдна ў судзе. Гэта такая ўзаконеная міласць да людзей, якіх надоўга адпраўляюць у турму. Радзікоўскі і Гаўрылаў ды іх родныя гэтай магчымасці аказаліся пазбаўленыя. Выпадкова?

***Кажа Яўгенія Гаўрылава:***

*«Гэтым прысудам я ашаломленая. Па твары майго сына на экране тэлевізара я бачыла, што і ён быў у страшнай разгубленасці. Мне дакладна вядома, што Толю абяцалі вызваленне. Мне пераказалі словы следчага: «Дзякуючы гэтаму маленькаму чалавеку (маецца на ўвазе мой сын) раскрытае гэтае злачынства. Аляксандр Рыгоравіч яму асабіста паціснуў руку...» Гэтак сказаў следчы. За што ж, згодна са следчым, паціскаў Аляксандр Рыгоравіч руку майму сыну?»*

Яўгенія Гаўрылава ўзгадвае, што на яе сына аказваўся ціск, што ён спачатку праходзіў па справе як сведка, а потым трапіў у турму КДБ і стаў абвінавачаным. «Я з гэтым прысудам не пагаджуся і буду хадзіць па ўсіх інстанцыях», — заяўляе зараз маці Гаўрылава. Ці не запозна?



● Аляксандр Лукашэнка ў ганаровай варце каля труны Яўгена Мікалуцкага

### Арсенал у гаражы

Нам удалося праслухаць магнітафонны запіс прысуду, які быў абвешчаны Янчэўскаму, Гаўрылаву і Радзікоўскаму. Асабіста мяне найбольш уразіў з гэтага прысуду пералік зброі і тэхнічных прыладаў, што былі канфіскаваныя ў «бандытаў»: аўтаматы, пісталеты, глушыцелі да іх, патроны, гранаты, узрыўчатка, аўтаматныя ражкі, нават кулямётная стужка, бікфордаў шнур, штык-нажы. З тэхнічных прыстасаванняў — пульты, дэтанатары, акамулятары, сканер і амаль дзесятак розных радыястанцыяў. Усё гэта быццам служыць на карысць версіі пра тое, што падсудныя ўдзельнічалі ў забойстве Мікалуцкага і рыхтавалі замах на прэзідэнта. Але як удалося высветліць, з гэтага арсенала ім практычна нічога не належала. Уся зброя, сцвярджае следства, знойдзеная ў гаражы нябожчыка Ткачова (былога гэбіста), які пры таямнічых абставінах памёр у магілёўскім ізалятары. Але, хто зараз можа высветліць, што сапраўды належыць Ткачову, а што «яму маглі прыпісаць»? У выніку ўсю зброю і тэхнічныя прылады суд перадаў магілёўскай міліцыі. ►

*Заканчэнне на стар.2*

**ГАРАЧАЯ ЛІНІЯ**

## Дзень грамадзяніна

Незвычайную агітацыйную акцыю правялі 13 чэрвеня ў Віцебску мясцовыя прадстаўнікі Аб'яднанай грамадзянскай партыі (АГП) — на працягу 11 гадзінаў тут у форме народнага гуляння праходзіў Дзень грамадзяніна. У імправізаваным канцэрце ўзяў удзел намеснік старшыні АГП Алесь Дабравольскі: акампануючы сабе на гітары, ён праспяваў дзве песні на вершы Уладзіміра Караткевіча.

***Аддзел інфармацыі***

## Урачыстасці ў Чырвоным касцёле

27 чэрвеня ў сталічным касцёле святых Сымона і Алены (Чырвоным касцёле) адбудуцца ўрачыстасці, прысвечаныя 10-годдзю Таварыства беларускай мовы імя Францыска Скарыны (ТБМ).

***Аддзел інфармацыі***

## Гродзенцы абышлі мінчукоў

Самым «аўтамабілізаваным» горадам у Беларусі з'яўляецца Гродна — на тысячу жыхароў тут прыпадае 163 машыны індывідуальнага карыстання. У Мінску — на 28 менш. Гродзенскія аўтаўладальнікі аддаюць перавагу «Аўдзі» і «Фольксвагенам».

***Антон ЛАБОВІЧ, БелаПАН***



**РЭХА**

# Вялікая перамога маленькага класа

**Расціслаў ПЕРМЯКОЎ**

**У сярэдняй школе N 191 будзе беларускамоўны 10-ты клас. Пра гэта НАВІНАМ афіцыйна паведаміла ўпраўленне адукацыі Мінгарвыканкама.**

Месяц таму мы пісалі пра біду вучняў беларускага 9-га класа гэтай школы: іх клас збіраліся расфармоўваць і далей навучаць на рускай мове. Такім чынам, парушалася права дзяцей на атрыманне сярэдняй адукацыі на роднай **дзяржаўнай** мове. «Што ж гэта робіцца ў нашай краіне, калі знішчаецца беларускі этнас і ўсё, што яму належыць?» – пыталіся пятнаццацігадовыя вучні.

Чыноўнікі з упраўлення адукацыі Мінгарвыканкама «махнулі рукой» на нерэнтабельнасць беларускамоўнага класа і вырашылі дазволіць навучанне па-беларуску. І за прынятае рашэнне ім можна смела сказаць «дзякуй». Яны зрабілі добрую справу і вартыя хаця б маральнай узнагароды.

Але праблема ў тым, што такіх класаў у Беларусі не адзін і не дзесяць. Школяры з 191-й напісалі ліст – і былі пачутыя. Колькі яшчэ дзяцей пазбаўленыя права вучыцца на роднай беларускай мове, пра якіх ніколі не ўзгадае ніякае ўпраўленне, ніякае міністэрства... І гэта прыкра.

Да таго часу, пакуль хоць адзін маленькі беларус не будзе мець магчымасці вучыцца па-беларуску, міністр адукацыі не можа прэтэндаваць на добрае слова ад нас. Але калі такое здарыцца і праблема беларускамоўных класаў знікне – ён зойме годнае месца ў гісторыі незалежнай Беларусі. ■

РЭСПУБЛІКА БЕЛАРУСЬ
МІНСКІ ГАРАДСКІ ВЫКАНАЎЧЫ КАМІТЭТ
УПРАЎЛЕННЕ АДУКАЦЫІ
220050, г. Мінск, вул. Кірава, 5. Тэл./факс 227-41-38

РЕСПУБЛИКА БЕЛАРУСЬ
МИНСКИЙ ГОРОДСКОЙ ИСПОЛНИТЕЛЬНЫЙ КОМИТЕТ
УПРАВЛЕНИЕ ОБРАЗОВАНИЯ
220050, г. Минск, ул. Кирова, 5. Тел./факс 227-41-38

10. 06 199_ г. № 6-03/947

220034, г.Мінск,
вул. З.Бядулі,5-47
рэдакцыя газеты "Навіны"

Упраўленне адукацыі Мінгарвыканкама інфармуе аб тым, што артыкул «Нерэнтабельнасць роднай мовы», надрукаваны ў Вашай газеце N 54 ад 19 траўня 1999 года, абмеркаваны на нарадзе загадчыкаў раа, рэкамендаваны для вывучэння і прыняцця неадкладных мер у кожным раёне горада па захаванні беларускамоўных школ і класаў.

Паведамляем, што беларускамоўны будучы 10 «А» клас у СШ №191 захоўваецца.

Начальнік упраўлення Г.А.ПЯТРОВІЧ

**НАДВОР'Е**




**16 чэрвеня** па рэспубліцы чакаецца пераменная воблачнасць, па Гродзенскай і Віцебскай абласцях месцамі кароткачасовыя дажджы і навальніцы. Вецер паўночна-ўсходні, 6—11 м/с, пры навальніцах магчымыя парывы да 15—20 м/с. Тэмпература паветра ўначы +14—+19.

**Курс наяўнага долара на «чорным рынку»**

**430 000**

АЎТОРАК З КАСТУСЁМ ТАРАСАВЫМ



## Гульня ў напарсткі

Хто назіраў «працу» напарстачніка, той ведае, што таямніцу гарошынкі ахоўвае, апроч гаспадара напарсткаў, кампанія з яго сябрукоў. Адзін выконвае ролю канкурэнта ахвяры, другі тлуміць ёй галаву байкамі, задача трэцяга — у выпадку пройгрышу ўчыніць сварку.

Менавіта такое ўражанне — кампанія напарстачнікаў — выклікалі ў мяне паводзіны высокапасаджаных асобаў Расіі, калі групоўка расійскіх міратворцаў урачыста пранеслася праз Сербію і ўначы 12 чэрвеня заняла аэрадром у косаўскай сталіцы. Зараз на ім стаіць шыльда «Наша!», і бронемашыны загарадзілі пасадачную паласу ад французаў і англічанаў.

Няпроста ўявіць, што салідныя і годныя на выгляд Ельцын, Сцяпашын, міністры замежных справаў і абароны Расіі акажуцца на справе двудушнымі ігракамі. Дзіўна было глядзець на весялосць кампаніі Ельцына ранкам 13 чэрвеня, на задаволеныя ўсмешкі дзяржаўных мужоў — во, маўляў, як выдатна руская смякалка праказала натаўцаў, аж скіівіца ў іх адвісла. І міратворцамі будзем, і задаволім наколкай наш электарат, і парадуем сербаў.

Відавочна, што Расію не цікавіла гуманітарная катастрофа, абрынутая сербамі на албанскае насельніцтва Косава. Нават абраная тады Расіяй лексіка асвятлення падзеяў (акупацыя, парушанае права, браты па веры) служыла ратаванню рэжыму Мілошавіча, які развязаў тры этнічныя вайны на Балканах. А ўжо тайныя перамовы з прэзідэнтам Югаславіі і выпрацаваны план калідора рускім для апярэджання натаўскіх падраздзяленняў проста мяжуюць з вераломствам. Інакш не растлумачыць пераход расійскіх вонаў праз тэрыторыю суверэннай дзяржавы. Дачакаўшыся зручнага моманту, Расія пажадала ўзняць сваё палітычнае і ваеннае значэнне візантыйскага кштату хітрыкамі.

Пасля такой малапрыстойнай гульні крамлёўскай вярхушкі хто здолее паверыць хоць аднаму слову Расіі? Калі расійскія трымальнікі ўлады не чырванеюць ад хлусні, калі лічаць, што мэта апраўдвае нізкія сродкі, дык і ў дачыненнях з іншымі суб'ектамі яны прымяняць такую ж двудушную тактыку.

Ва ўсялякім разе ў адносінах з Беларуссю гэтакая тактыка скарыстоўваецца: узнёслыя словы пра сяброўства, братэрства, адзіную кроў — і планамернаеператварэнне РБ у расійскую правінцыю высілкамі пятай калоны.

Гульні беларускага прэзідэнта з Масквой, якая лічыць нармальным хаваць гарошыну між пальцаў, пагражаюць Беларусі крахам. Наўрад ці хто зможа ўбачыць удачу пад расійскімі напарсткамі.

# Цёмная справа

*Заканчэнне.*
*Пачатак на стар.1*

У прыбытак дзяржавы перададзеныя і канфіскаваныя аўтамабілі — «Форд», «Аўдзі» і джып «Чэрокі». Гэтыя машыны, аказваецца, таксама належалі Ткачову, а Янчэўскі і Радзікоўскі зусім не мелі да іх дачынення. Цікава аднак, што машыны фігуруюць у справе як транспартныя сродкі на ўзбраенні злачыннай банды.

## Ці была банда?

Калі не высветлена, хто аддаваў загад забіваць Мікалуцкага, то ўзнікае яшчэ адно лагічнае пытанне — а ўвогуле, ці была банда? 74-ы артыкул крымінальнага кодэкса — адзін з асноўных, на якіх грунтаваліся абвінавачанні супраць магілёўцаў. Аднак, па звестках з суда, у банду яны неяк не сабраліся. Раман Радзікоўскі, напрыклад, ніколі да ізалятара не сустракаўся з Янчэўскім, а з Гаўрылавым упершыню ўбачыўся ўжо ў судзе. Гаўрылаў сапраўды быў знаёмы з Янчэўскім, нават ведаў пра яго тое, што дапамагло следчым пасадзіць Янчэўскага на лаву падсудных. Але на судзе не было даказана, што сам Гаўрылаў удзельнічаў у спецыяльных дзеяннях супраць Мікалуцкага. Не абверг суд і алібі Віктара Янчэўскага, які сцвярджаў, што ў момант выбуху ён быў дома. Фактычна абвінавачанне супраць Янчэўскага ў забойстве Мікалуцкага грунтавалася толькі на паказаннях жонкі Мікалуцкага, якая быццам бы бачыла Янчэўскага ў двары свайго дома пасля трагедыі. Але чаму ў гэтых паказаннях нельга засумнявацца? Вядома ж, што жонка Мікалуцкага «пазнала» Янчэўскага амаль праз год пасля выбуху, калі Янчэўскі ўжо палову года сядзеў у турме. Няўжо раней яна не магла ўзгадаць пра чалавека ў спартовым строі?.. Кажуць, у рэшце рэшт удава Мікалуцкага на судзе сама выказвала сумненні наконт таго, ці сапраўдных забойцаў яе мужа там судзілі.

Гэткіх ды іншых несупадзенняў было ў справе Мікалуцкага шмат. Нездарма падчас працэсу следчых, якія рыхтавалі справу, спецыяльна выклікалі ў суд «на кавёр». А яшчэ раней справу адпраўлялі на дарасследаванне. І ўсё роўна белых плямаў у ёй засталося шмат.

Калі яны будуць разгаданыя — невядома. ■

ФОТАФАКТ




Фота Ул. ШЛАПАКА

● Адзінаццатага чэрвеня ў дзень народзінаў вядомага палітвязня, дэпутата Вярхоўнага Савета Уладзіміра Кудзінава яго аднадумцы правялі каля будынка ЦУМа пікет падтрымкі. Сярод пікетоўшчыкаў былі Віктар Ганчар, Сямён Шарэцкі, Уладзімір Нісцюк, вядомыя беларускія журналісты і праваабаронцы.

**На скрыпцы грае дачка Уладзіміра Кудзінава Зоя.**

СУДОВЫ ПРАЦЭС

# З новым годам!

**Аляксей ШЫДЛОЎСКІ**

У Мінскім гарадскім судзе скончыўся працэс над намеснікам старшыні «Маладога Фронту» Яўгенам Скочкам.

На пачатку апошняга паседжання юнаку далі апошняе слова, у якім Яўген сказаў, што не лічыць сябе парушальнікам заканадаўства, а наадварот, закон, Канстытуцыю парушылі спадары Чыкін і Ярмошын, якія ў вызначаныя тэрміны не далі афіцыйнага адказу на заяўку аб правядзенні акцыі. Падсудны прапанаваў завесці супраць старшыні Мінгарвыканкама, яго намесніка і кіраўніцтва ГУУС г.Мінска крымінальныя справы. Тое, што яго судзяць, Скочка назваў пераследам уладамі сваіх апанентаў і заклікаў суддзю праявіць сумленне.

Пасля трохгадзіннага перапынку ў зале паседжанняў сабралася вялікая колькасць неабыякавых да лёсу маладафронтаўца людзей, каб заслухаць вынесены прысуд.

Суддзя прызнаў Яўгена Скочку вінаватым у групавых дзеяннях, якія груба парушаюць грамадскі парадак (артыкул 186[3] крымінальнага кодэкса), але адначасова зняў з Яўгена віну ў перакрыцці руху транспарту. Улічыўшы першую судзімасць, малады ўзрост і разам з тым ранейшыя адміністрацыйныя пакаранні, Валерый Камісараў палічыў, што выпраўленне падсуднага магчымае без ізаляцыі ад грамадства, і прысудзіў пакаранне ў 1 год калоніі з адтэрмінойкай прысуду на 1 год. Суддзя адмовіў пракурору і не выслаў маладафронтаўца на час адбывання пакарання з Мінска гэтаксама, як і не забараніў яму хадзіць на дэманстрацыі.

Нягледзячы на прысуд, у справе Скочкі рана ставіць кропку, бо ён разам з адвакатам Лепешам падаў касацыйную скаргу ў Вярхоўны суд, дзе просіць апраўдаць яго. ■

**До 23 числа каждого месяца можно подписаться на получение газеты НАВІНЫ в киосках «Белсоюзпечати».**

Эти киоски находятся во всех районах города, на остановках, возле ваших домов, в метро. Не упустите возможность такой подписки!

Получить информацию об этом виде подписки можно в «Белсоюзпечати» по телефону 227-88-41.

Ниже мы сообщаем адреса пунктов, где можно оформить подписку «до востребования».

**ВНИМАНИЕ: подписаться можно в указанных киосках, а получать НАВІНЫ в тех киосках, где вам удобнее.**

**Не забывайцеся, падпісацца на нашую газету праз шапікі «Белсаюздруку» каштуе на 80 тысяч у месяц менш у параўнанні са звычайнай падпіскай.**

## Список пунктов МГОРП «Белсоюзпечать», где принимается подписка «до востребования»

1. Ул.Володарского, 22. Магазин № 14
2. Ул.Есенина, 16. Магазин № 20
3. Ул.Жилуновича, 31. Магазин № 24
4. Ул.Жуковского, 5, корп.1. Октябрьский пункт подписки
5. Ул.Жуковского, 5. Магазин № 1
6. Ул.Я.Коласа, 67. Магазин № 7
7. Ул.Калиновского, 82, корп.2. Магазин № 13
8. Ул.Кижеватова, 80. Магазин № 12
9. Ул.Кошевого, 8. Партизанский пункт подписки
10. Ул.Ленина, 15. Магазин № 4
11. Пр.Машерова, 51, корп.1. Магазин № 19
12. Пр.Машерова, 31 (г-ца «Планета»). Киоск № 262
13. Пр.Машерова, 19 (г-ца «Юбилейная»). Киоск № 78
14. Ул.Некрасова, 35. Магазин № 17
15. Площадь Победы (подземный переход). Магазин № 18
16. Площадь Притыцкого (подземный переход). Магазин № 21
17. Площадь Я.Коласа (переход около ЦУМа). Киоск № 136
18. Пр.Пушкина, 77. Магазин № 11
19. Пр.Рокоссовского, 140. Магазин № 9
20. Ул.Романовская Слобода, 9. Фрунзенский пункт подписки
21. Ул.Славинского, 39. Магазин № 23
22. Пр.Скорины, 11 (г-ца «Минск»). Киоск № 34
23. Пр.Скорины, 44. Магазин № 2
24. Пр.Скорины, 76. Магазин № 3
25. Пр.Скорины, 113. Первомайский пункт подписки
26. Ул.Сторожевская, 15 (г-ца «Беларусь»). Киоск № 187
27. Ул.Сурганова, 40. Магазин № 8
28. Ул.М.Танка, 16. Магазин № 15
29. Ул.Филимонова, 1. Магазин № 6
30. Ул.В.Хоружей, 24. Магазин № 16

ЦЫТАТА НУМАРА

**Досыць многа людзей адышло ад БПСМ — і дзякуй Богу!**

*Усевалад ЯНЧЭЎСКІ*
*Першы сакратар ЦК БПСМ*
*Газета «Звязда», 12 чэрвеня 1999г.*

# У Косткі хочуць апісаць маёмасць

**Аляксей ШЫДЛОЎСКІ**

Да Валерыя Косткі, аднаго з арганізатараў антыфашысцкага шэсця, якое прайшло 27 лютага ў Мінску, завіталі судовыя выканаўцы з пагрозай апісаць маёмасць, бо ён дагэтуль не сплаціў штраф у памеры 75 мільёнаў рублёў.

Штраф гэты быў прысуджаны яму судом Савецкага раёна горада Мінска ў красавіку гэтага года за тое, што калона дэманстрантаў, не жадаючы рызыкаваць здароўем, не пайшла па абледзянелых ходніках, а заняла праезную частку.

Цікавая дэталь: судовы выканаўца папрасіў антыфашыста выплаціць грошы да 3 ліпеня, дня вызвалення Мінска ад фашысцкіх захопнікаў. У выпадку няплаты мэбля спадара Косткі пяройдзе ў валоданне дзяржавы. ■

# Для бабруйскай вертыкалі апазіцыя страшнейшая за СНІД

**Сымон ГЛАЗШТЭЙН**

У Бабруйску мясцовы гарвыканкам забараніў правядзенне пікета супраць СНІДу. Яго наладжвала суполка Грамадзянскага форуму. Падобна на тое, што мясцовая вертыкаль ужо нават не спрабуе разабрацца, што яна забараняе! Адмаўляюць арганізатарам любых мерапрыемстваў апазіцыі.

Пікет, тым не менш, адбыўся. Яго правялі ў цэнтры горада. Людзям раздавалі адпаведную агітацыйную літаратуру і прэзервватывы. Як лічаць удзельнікі пікета, падобнымі забаронамі ўлады паказваюць хіба што тое, што апазіцыя для іх страшнейшая за СНІД....

Цікава, што Бабруйск з'яўляецца адным з самых небяспечных гарадоў краіны па захворваемасці на СНІД. Тут налічваецца больш за 50 афіцыйна зарэгістраваных носьбітаў СНІДу. ■

ВАЙНА

# Першыя ахвяры мірнага працэсу

**Расціслаў ПЕРМЯКОЎ**

У суботу NATO распачало міратворчую аперацыю ў Косава. На сённяшні дзень на тэрыторыю края ўвайшло ўжо каля 5 тысяч вайскоўцаў з міратворчых злучэнняў KFOR. Учора на тэрыторыі края з'явіліся 1.200 ваенных маракоў ЗША. Яны будуць кантраляваць амерыканскі сектар у Косава.

За апошнія два дні ў Косава былі забітыя тры нямецкія журналісты. У нядзелю, падчас разгортвання наземных натаўскіх войскаў у краі, двое журналістаў былі расстраляныя невядомымі ва ўласнай машыне непадалёк ад Прышціны. Труп трэцяга быў знойдзены ўчора зранку ў горадзе Сува Рэка – пра гэта паведаміла міністэрства замежных справаў Германіі.

Тым часам, расіяне ўжо «засталбілі» сабе цёпленькае месцейка ў Косава – калі, самавольна і нікога не папярэдзіўшы, 200 дэсантнікаў у ноч на суботу ўвайшлі ў Прышціну і занялі мясцовы аэрапорт. Расійскі бок патрабуе асобны кавалак Косава пад свой кантроль і ўласную сістэму камандавання, незалежную ад NATO. Захад на гэта пагадзіцца не можа. ■

# «Наша Ніва»

Газэта, якая рыхтуецца зь ліпеня перайсьці на штотыднёвы выхад, у чарговым нумары зноў зьвяртаецца да творчасьці Васіля Быкава, якому 19 чэрвеня спаўняецца 75 год. Друкуецца яго новая і вельмі сьветлая прыпавесьць «Хутаранцы» (крытыкі некалі будуць гаварыць пра «фінскі пэрыяд» у творчасьці пісьменьніка), а прафэсар Ірына Шаблоўская піша пра парадокс гэтага пісьменьніка, які не арыентаваны на Перамогу ў традыцыйна савецкім уяўленьні, а, наадварот, бяжыць ад перамогі, ад homo killer-а, ад забойства ўвогуле. У «Вострай браме» пісьменьнікі і гісторыкі разважаюць пра тое, як сыстэма выкладаньня гісторыі Беларусі ў школе працівіцца замяталінскім спробам сфальшаваць нашую памяць. Сапраўдны ж герой нумара — Зянон Пазьняк. Газэта друкуе стэнаграму ягонага выступу ў Таварыстве беларускай культуры ў Вільні. Такіх шчырых заяваў ад палітыкаў мы даўно ня чулі. ■

УСХОДНІ НАПРАМАК

# «Приправа» к российскому пирогу

## Александр Лукашенко признался, что готов выдвинуть свою кандидатуру на выборах главы Союза России и Беларуси

Виктория ТУРОВА

**Еще не стерлись из памяти заверения Лукашенко в том, что шапку Мономаха он примерять не собирается, как своим новым откровением он перечеркнул собственные обещания. В интервью российской газете «Трибуна» Александр Лукашенко сообщил, что не исключает возможности выдвижения своей кандидатуры на выборах главы Союза Беларуси и России, хотя и отдает себе отчет, что это станет возможным только в том случае, если должность союзного президента будет вообще учреждена.**

На первоначальном этапе переговоров об объединении России и Беларуси Лукашенко готов был согласиться на то, чтобы становиться президентом Союза по очереди с Ельциным. Однако ему разъяснили, что союзные посты можно ввести только изменяя Конституции обоих государств. В Беларуси с конституционными реформами полный порядок. Но в России сегодня не начало 90-х, а конец XX века. За такие дела могут в процессе референдума вообще президентский пост упразднить. Тем более, что россиян сейчас к урнам подпускать нельзя — зарплату не платят со времен последней реформы.

В ходе апрельской встречи Борис Ельцин не поддержал и другую инициативу Лукашенко – поделить союзные посты по-братски: президентский – большему, вице-президентский – меньшему. Вот Лукашенко и обиделся, мол, не хотите меня на первые роли, получите на вторые. **«Если мой рейтинг будет достаточно высок, то наверняка найдутся люди, которые захотят выдвинуть меня на этот пост»**, — убежден он. И это не пустые слова. Не зря же он и его команда так долго «окучивали» российские регионы. А в «красных» регионах рейтинг белоруса – ого-го какой!

Белорусский лидер понимает, что большинство российских политиков только на словах приваживают соседа, а на деле вовсе не горят желанием увидеть «белорусский феномен» на кремлевском престоле. Но их мнение не заботит Лукашенко. Главное — влюбить в себя электорат, а уж политики вынуждены будут подстроиться. России, по мнению А.Лукашенко, ох, как нужна крепкая рука. Белорусский президент может научить россиян, как надо делать, чтобы Запад в постоянном напряжении держать, чтобы парламент не выступал, чтобы оппозиция не высовывалась, чтобы журналисты только про надои и виды на урожай рассуждали.

Однако то, что прижилось в Беларуси, в России внедрить нереально. Именно поэтому навязчивые идеи Лукашенко «сдать» собственную страну России не находят соответствующего понимания в Кремле. В руководстве России «блокируется практически все, что касается единения с Беларусью», а «с мнением Б.Ельцина просто не считаются», пожаловался белорусский президент журналистам российской «Трибуны». Два президента декларацию подписывают, шампанское выпивают, интервью дают, а договоренности на местах не реализуются! Если бы в Беларуси какой-либо чиновник или ведомство позволило себе не выполнить международное соглашение, «я бы голову за это снял», поучает младший старшего брата. Из интервью следует, что Лукашенко раздражает и создание ГУУАМ – сообщества государств, в которое вошли Грузия, Узбекистан, Украина, Азербайджан и Молдова. Новообразование возникло, по словам Лукашенко, исключительно из-за действий Москвы, а это, безусловно, еще более отдаляет народы указанных государств от России.

Критическая экономическая ситуация, сложившаяся в Беларуси за время правления Лукашенко, толкает его на российское политическое поле. Президент желает снять с себя ответственность за то положение страны, в котором Беларусь оказалась по вине его непрофессионального руководства. Кроме того, до 20 июля надо любыми путями устранить и политическую проблему с легитимизацией президентских полномочий. Интервью российской газете ясно показывает, что все свои чаяния и надежды на этот счет белорусский лидер связывает исключительно с Москвой. Только образование до 20 июля нового конфедеративного государства может стать так необходимым ему спасательным кругом. ■

НАЗІРАЛЬНІК

# Ма-а-а-а-ленькие думки

Александр ДУБРАВИН

**Забавные книжицы попадают иногда на задние полки газетных киосков в конце месяца. Например, научно-теоретический орган «Беларуская думка», основанный, как сообщается на его первой странице, президентской администрацией аж в 1991 году. Задолго, между прочим, до возникновения президента и его администрации, а также любых мыслей на сей счет. Тогда еще о плохом и не думалось, надеялись на лучшее.**

Книжица печатается ровными буквами на белой бумаге тиражом 9 тысяч 311 экземпляров, что чудесным образом обеспечивает выживание всех творческих людей этого органа в кабинетах с 14(!) телефонами. А это – главное. Забота о людях – наш девиз!

Рассчитана книжица, по-видимому, на особую категорию избранных читателей – на государственных мужей. Этих неугомонных титанов новых планов, человечищ селекторных совещаний, тряпичкиных новой формации, чиновников вертикальной посадки. Она призвана наливать их усталые мозги увесистыми мыслями и помогать бить этими мыслями по массам. Справляется ли она с такой работой?

На страницах «Б. думки» часто встречаются поучительные теоретические места. Вот, например, характерная выпуклость из интервью Урала Рамдраковича Латыпова под заголовком «Мыслить и действовать в измерении завтрашнего дня...», в майском номере «Б. думкі»: «...история трех наших народов, наши политические и экономические интересы, интересы в области безопасности, наше культурное родство, ратные подвиги, родственные связи дают полное право говорить о белорусах, русских и украинцах как именно о братских народах. И большой исторический грех берут на себя те, кто хочет это братство порушить».

Очень содержательная глыба текста! Урал Рамдракович задает тон, выступает как синтезатор истории, защищает некое виртуальное «братство» и чешет готовыми кусками из «Славянской газеты». Непонятно, правда, какой народ он считает своим среди вышеперечисленных «наших», но это мелочи. Главное, что он хороший человек и выступает от нашего имени. Выступать ему поручил Александр Григорьевич, которого идеологией заниматься тоже как будто никто не принуждал. Для этого есть образованные люди. Но они в администрацию к президенту не попали. И в «Б. думке» их негусто. Поэтому некому было своевременно объяснить Уралу Рамдраковичу, как человеку не местному, в чем истинные интересы наших народов и как нужно укреплять дружбу с соседями министру иностранных дел независимой Беларуси. В том числе на Севере и на Западе.

А что касается настоящей истории, Урал Рамдракович, так ее лучше вообще не трогать! Там кроется много смертельных опасностей для вашей удивительной модели коммунальной дружбы народов. Лучше напишите новую, свою, на гладкой бумаге. В соавторстве с Владимиром Петровичем Заметалиным. Он тоже не местный. И тоже при «портфеле».

Книжица хороша еще и тем, что собрала вокруг себя любителей казенной мудрости. Переливателей из пустого в порожнее. То есть, государственных философов. Людей, которые думают в нужном для нынешней власти направлении и за это получают блага из государственных закромов. Совершенно понятно, что если блага по нашим временам небольшие, то и думы отечественных философов неизбежно будут иметь соответствующий размер. Бытие, так сказать, определяет калибр. Под видом глобальных мыслей оприходуются ма-а-а-а-ленькие думки. Диалектика! Однако не все отечественные любомудры согласны с этим утверждением. Некоторые философствуют все наоборот.

Вот вам статья кандидата философских наук Сергея Голубева из Витебска «Духовное единство – фундамент союзного государства» в том же номере. Берем ее как очень красноречивый пример, характеризующий всю книжицу.

Отметим как неоспоримую находку автора саму тему этого произведения, выраженную в заголовке. Она необыкновенно актуальна в переходный период, когда очень нужно теоретически обосновать оккупацию своей страны соседним государством. Тема очень «проходимистая»! С ней можно замахиваться не только на докторскую диссертацию, но даже и на профессорскую ставку!

Хочется, тем не менее, предостеречь автора, что проходимость в науке имеет свойство моментально превращаться в непроходимость. Один ученый дядя как-то писал диссертацию под заголовком «Сталин – вождь трудящихся всего мира». И не успел защититься: Сталин умер. Ученый начал писать диссертацию «Хрущев – лидер коммунистического мира», и тоже не успел. Тогда он расстроился и умер сам на полпути к успеху. Вот как бывает в философских кругах.

Перейдем теперь к рассмотрению содержания самой статьи. В ней описаны печальные личные мотивы автора, вызванные распадом СССР. Любомудр Голубев сослался при этом на имена Платона, Аристотеля, М.Вебера, Иллариона, Филофея, Владимира Мономаха, славянофилов и т.п. Экономика, утверждает автор, для государства не самое главное. Главное – «ценности духа, религия для государственного бытия». Без экономики, дескать, еще прожить можно, а вот без политинформаций – никак! Советский Союз, оказывается, развалился от того, что «был вынут стержень идеологии, сняты ее скрепы – и государство распалось; уже никакая экономическая целесообразность и взаимовыгода не могли его спасти». Называются некие абстрактные цифры, взятые наугад, без ссылки на источник. Тут же автор находит место и для Америки в качестве отрицательного примера. Без нее ведь – никак. Почему, дескать, американский инженер получает в 50-100 раз больше российского? Потому, оказывается, что американцы эксплуататоры и у них идеология на первом месте. Ну и так далее, тому подобное, как на паперти. Заунывно и безграмотно. Давай попов, лекторов и агитацию! «Концептуальная власть над миром». «Базовые ценности». Давай «братство», высокую духовность. А экономика – потом, как получится. Хотя мы ее и не отвергаем.

В конце статьи кандидат Голубев переходит к своему затаенному конструктиву: «Наши ценности, общие для русских и белорусов, — это вера и уважение к старшим, справедливость, коллективизм и взаимовыручка, любовь к Родине и способность подчинять свои интересы интересам общества». Классическая демагогия в исполнении кандидата философских наук. Разве японцы, например, меньше уважают старших? Или разве американцы меньше любят свою Родину? А вот «коллективизм» – действительно чисто российская ценность, навязываемая всем соседям с упорством маньяка. Отсюда, кстати, все российские изобретения нового времени: колхозы, лагеря, колонии, армии, общины, союзы и т.п. Это все от комплекса неполноценности.

Если уж говорить по существу, «брат» Голубев, то для белорусов характерен индивидуализм. Мы – нация хуторян, единоличников, хозяев. Мы не любим горлопанов, бездельников, голодранцев и шарлатанов, которые норовят каждый раз взобраться нам на шею. Вы что в очередной раз предлагаете? Подчинить интересы нормальных людей интересам какого-то «общества», состоящего, как правило, из мерзавцев высшей пробы, да захребетников, не умеющих и не желающих работать? Ведь самый большой подарок, какой это «общество» и самодельные философы могут дать белорусскому народу, — раз и навсегда оставить его в покое. Он сам устроит свое счастье. Короче: в гробу белорусы его видали, ваш коллективизм, так и передайте коллегам.

Словом, впечатление такое: присел рядом со мной мыслитель Голубев, выпустил свою маленькую «думку» и пропал навеки. А запах остался. Запах гнилых идей, душистой чепухи и всей этой книжицы, пылящейся на задней полке газетного киоска. ■

ДЫЯГНАЗ



Александр ПОТУПА

## Умопомрачение

Года три назад, незадолго до несветлой памяти референдума-96, один видный оппозиционер спросил меня: «Какой президент нужен стране?» И под настроение получил ответ: «В первую очередь стране нужен главный психиатр». Шутка стала широко известной в узких кругах, но вряд ли мы представляли тогда, сколь мала в ней доля шутки.

В недавнем интервью для «БДГ» председатель Комитета цен при минэкономики г-н Адашкевич изволил мотивировать необходимость государственного зажима цен слишком высокими зарплатами, скажем, в системе «Белфарм». «Оказывается, в этой системе (4 предприятия в Беларуси), — сказал он, — средняя зарплата BLR 18 млн. А у их руководителей «пахнет» 40 миллионами. В то время как средняя зарплата по промышленности республики составила BLR 12 млн., а зарплата у председателя Комитета цен — BLR 21 млн., включая все виды доплат за классность, госслужбу. Так давайте хоть чуть-чуть иметь какие-то рамки».

Иметь какие-то рамки — очень свежая и привлекательная мысль. И председателя жалко. Но в переводе на общепонятное его идея сводится к тому, что негоже прибыльным фармацевтам зарабатывать по 40 «баксов» в месяц, когда в среднем народ зарабатывает $30. А более $90, которые получают руководители предприятий, пахнут черт знает чем на фоне менее $50 председательских с его-то классностью.

Если вы зажмурились, сосредоточились на этих цифрах и почувствовали, что «едет крыша», не пугайтесь — с вашей-то психикой как раз все в порядке. Хуже у тех, кто согласен за такие деньги руководить государством и переживает лишь за то, что руководители более мелких предприятий, чем Республика Беларусь, иногда получают немного больше. И с целью предотвратить безобразие вводят в действие такие документы, как постановление совмина № 822 от 31.05.99, где должностные оклады руководителей предприятий зажаты в интервале примерно $35-58, а у руководителей научно-исследовательских и проектных организаций — вообще в интервале $ 30-43. На этом фоне периодические вспышки борьбы с коррупцией выглядят как неизбежно учащающиеся обострения хронического популизма с переходом в буйную фазу.

Похоже, подавляющее большинство государственных актов нуждается в предварительной психолого-психиатрической экспертизе. Возможно, у читателей есть собственное мнение на этот счет, и они подскажут нам название тех актов, которые подлежат означенной экспертизе в первую очередь. Будем признательны и постараемся посодействовать.

Только оценивайте все с гуманных позиций — они ведь хочут (или хотят?) как лучше, а потом приходится «чуть-чуть иметь какие-то рамки», которые, в свою очередь, за такую зарплату и не хотят, и не хочут...

# Сынок

## Адным даруецца ўсё. Другіх за значна меншае караюць

**Славамір АДАМОВІЧ**

**Трохпавярховы чырвоны дом пад №17, што стаіць на вуліцы Беламорскай у Менску, належыць былому дэпутату ВС БССР, лаўрэату дзяржпрэміяў СССР і БССР, народнаму мастаку СССР Міхаілу Савіцкаму. Жыве тут і ягоны сын, Савіцкі-малодшы — А.М. Пра яго і пойдзе мая гутарка.**

### Не прайшоў па конкурсе

*«Грамадзянскасьць — гэта актыўная жыцьцёвая пазыцыя. У хвіліну выпрабаваньняў, у цяжкія часы гэтая ўласьцівасьць абавязкова праявіцца самым яскравым чынам».*

***М.Савіцкі, «Зорька», № 40 ад 7.10.1983.***

Пасьля вучобы ў мастацкай школцы імя Глебава няпроста Савіцкаму-сыну паступалася ў тэатральна-мастацкі інстытут. З копіі экзаменацыйнага ліста №16, выдадзенага 6.07.1981, вынікае, што абітурыент Савіцкі на прыёмных іспытах атрымаў наступныя адзнакі: малюнак агульнай фігуры — тры, жывапіс (нацюрморт) — тры, малюнак (галава) — тры, жывапіс (галава) — тры, кампазыцыя — тры, беларуская мова і літаратура (сачыненьне) — тры, руская мова і літаратура (вусна) — чатыры, гісторыя СССР (вусна) — пяць. Такім чынам, паводле атрыманых адзнакаў, Савіцкі-сын па конкурсе не праходзіў.

I тады да вырашэньня праблемы падключыўся Савіцкі-бацька. У звароце на імя міністра вышэйшай і сярэдняй спэцыяльнай адукацыі БССР Мяшкова ён піша:

*«**Паважаны Мікалай Максімавіч!** У гэтым годзе мой сын, Савіцкі А.М., здаваў экзамэны ў Беларускім дзяржаўным тэатральна-мастацкім інстытуце на аддзяленьне графікі. Не набраўшы неабходнай колькасьці балаў, не прайшоў па конкурсе. Усё ясна, і ня можа быць пытаньняў, разумеючы, што ў выніку шматгадовага вялікага вопыту выпрацаваныя палажэньні адбору абітурыентаў, выкананьне якіх засьцерагае ад памылак. (...) У тэатральна-мастацкім інстытуце, на падставе яго спэцыфікі, склалася традыцыя ўнясеньня карэктываў пры вызначэньні адзнакі па экзаменацыйным прадмеце, кіруючыся толькі меркаваньнем выкладчыкаў пра таленавітасьць паступаючага. У выніку допускаюцца непапраўныя, ня толькі для абітурыентаў, памылкі і магчымасьці неаб'ектыўнага стаўленьня. (...) Ведаючы ўзровень адукацыі і дадзеныя свайго сына, прычым ня з пункту гледжаньня бацькі да свайго сына, а з пазыцыяў высокіх прафэсійных патрабаваньняў, я прыйшоў да высновы, што допушчана памылка. (...) Прашу Вашай дапамогі, Мікалай Максімавіч, у залічэньні майго сына студэнтам тэатральна-мастацкага інстытуту, бо ў гэтым годзе набор на катэдру графікі ўсяго пяць чалавек, нашмат менш, чым у мінулыя гады.*

***М.Савіцкі, народны мастак СССР, член-карэспандэнт Акадэміі мастацтваў СССР».***

Зварот Савіцкага-старэйшага знайшоў разуменьне ў колішняй партыйнай дамы Сьняжковай, якая ў верхнім левым куце згаданай апэляцыі размашыстым почыркам пастанавіла: *«Мяшкову. Згадзіцца з просьбаю М.Савіцкага ў парадку выключэньня»*. Крыху ніжэй — рэзалюцыя рэктара Э.Герасімовіча: *«Залічыць у якасьці выключэньня (звыш пляну) Савіцкага А.М. студэнтам першага курсу БТМІ. 24.08.81»*. Так Сынок стаў студэнтам.

Савіцкі-бацька пасьля 1981 году пасьпяхова перажыў і перабудову Гарбачова, і распад СССР, і беларускі канстытуцыйна-дзяржаўны ўздым пэрыяду 1991-1994 гадоў. Здавалася б, толькі радавацца, што Бог даў дажыць да часоў ППРБ. Але няма ў аўтара «Лічбаў на сэрцы» вялікай радасьці ад жыцця і дзякуючы Сынку ўжо, відаць, ня будзе.

Не відаць, каб быў асабліва ўсьцешаны жыцьцём і Савіцкі-сын. 5 траўня 1995 году ў газэце «Белоруссия» выходзіць ягоны артыкул «Хамут для «Пагоні», альбо Роздум з нагоды адной выстаўкі», у якім Сынок удасканальваецца ў майстэрстве бруталізацыі як ідэяў, гэтак і рэаліяў беларускага жыцьця. Выхад на экраны БТ фільму "Дзеці хлусьні" яшчэ больш ускладніў узаеміны Сынка з навакольным сьветам — былыя аднакурсьнікі і таварышы перасталі здароўкацца, студэнты адкрыта пагарджаюць ім. У інтэрв'ю для газэты «Свободные новости плюс» («№ 32 за 11-18.08.1995) колішні троечнік і непаступленец бязь ценю сумневу заяўляе: «Я лічу сябе прафэсійным мастаком. А добрым ці дрэнным — ужо некарэктнае пытаньне». У № 12 газэты «Имя» за 30 жніўня таго ж 1995 «прафэсійны мастак» у дыялогу з карэспандэнтам газэты З.Плаксам зрываецца на элементарную лаянку. «А што робіцца ў нас у акадэміі? — пытаньнем на пытаньне журналіста адказвае Сынок. — Нядаўна прачытаў у газэце інтэрв'ю двух малалетніх крэтынаў, якія там вучацца. Ды гэтых прыдуркаў адправіць проста ў войскі, у будбат, няхай іх там гарачыя чачэнскія хлопцы навучаць сяму-таму, тады паглядзім, што яны будуць казаць».

Ня ведаю, што сказалі б непаўналетнія студэнты, калі, ня дай Бог, давялося б трапіць на чачэна-расейскую вайну, а вось Андрэю Савіцкаму апошнія месяцаў восем сказаць няма чаго. І гэтаму ёсьць істотная прычына...

### Стрэл

Судовы працэс над А.М. Савіцкім, 1964 г.нар., ураджэнцам Менску, з вышэйшай адукацыяй, грамадзянінам РБ, нежанатым, ваеннаабавязаным, які працуе памочнікам кіраўніка ў творчых акадэмічных майстэрнях міністэрства культуры РБ, раней не судзімым, распачаўся 23 сьнежня 1998 г. і завяршыўся на наступны дзень. Суд пад старшынствам судзьдзі Дашука, у прысутнасьці народных засядальнікаў, грамадзкага абаронцы (адваката Азгура З.З.) устанавіў наступнае.

Савіцкі А.М. 6.09.1998 каля 14 гадзінаў дня, знаходзячыся на вул. Беламорскай, 17, зьдзейсьніў злоснае хуліганства: з двара свайго дому, кіруючыся хуліганскімі намерамі, зрабіў адзін прыцэльны стрэл зь незарэгістраванага газавага рэвальвэра шротавым патронам у непаўналетніх Запарожца Сяргея і Шавеля Андрэя, прычыніўшы Запарожцу раненьне твару і Шавелю пабоі ў выглядзе сінякоў на патыліцы.

Дапытаны ў судовых паседжаньнях у якасьці падсуднага Савіцкі А.М. растлумачыў, што 6 верасьня 1998 году каля 14 гадзінаў дня ягоная маці паведаміла яму, што нейкія падлеткі спрабуюць пералязьці плот, якім абгароджаны іх участак вакол дому. Ён выбег на двор, убачыў падлеткаў і, для таго каб папужаць іх, дастаў з кішэні ватоўкі газавы рэвальвэр, накіраваў яго ў бок непаўналетніх і зрабіў адзін непрыцэльны стрэл. Намеру нанесьці цялесныя пашкоджаньні ня меў, пра тое, што ў рэвальвэры знаходзіліся тры шротавыя патроны, ня ведаў. Зброю набыў у кастрычніку 1997 г. у навочна знаёмага. Калі ён, Савіцкі А.М., выходзіў са свайго дому і ўбачыў падлеткаў, яны не ўяўлялі для ягоных жыцьця і маёмасьці ніякай пагрозы.

Віна падсуднага пацьвярджаецца паказаньнямі пацярпелых. Непаўналетні Запарожац патлумачыў, што ён, яго сябры Матушэўскі, Патапенка і Шавель гулялі ў мячык, які выпадкова трапіў у мэталічныя вароты суседняга дому. Калі яны паспрабавалі забраць мячык, насустрач выбег незнаёмы мужчына, у правай руцэ якога быў рэвальвэр чорнага колеру, і стрэліў. Шавель і Запарожац атрымалі раненьні твару, пасля чаго падлеткі пайшлі на кватэру да Патапенкі, каб спыніць кроў і перавязаць раны. Пра здарэньне яны расказалі матцы непаўналетняга Патапенкі. Пацярпелыя Матушэўскі, Шавель і Патапенка пацьвердзілі паказаньні свайго таварыша.

Віна падсуднага Савіцкага А.М. пацьвярджаецца пратаколам агляду месца здарэньня, пратаколам адабраньня рэчавых доказаў (рэвальвэру) і пратаколам сьледчага экспэрымэнту, а таксама высновамі судова-мэдыцынскіх экспэртызаў, якія сьведчаць, што рубцы на твары зьявіліся ў выніку прымяненьня газава-шротавай зброі і адносяцца да катэгорыі лёгкіх цялесных пашкоджаньняў. Гэтыя пашкоджаньні не пацягнулі за сабой кароткатэрміновага расстройства здароўя, іншародных целы, якія знаходзяцца ў мяккіх тканках твару, могуць быць выдаленыя як самастойна, так і хірургічным шляхам. Рубцы на твары зь цягам часу стануць больш тонкімі, сьветлымі, рухомымі, як і тыя, якія застаюцца пасьля выдаленьня іншародных целаў, але поўнасьцю ня зьнікнуць.

Што да зброі, дык балістычная экспэртыза высьветліла наступнае: рэвальвэр №053327, адабраны ў гр. Савіцкага, зьяўляецца газавым рэвальвэрам мадэлі МЕ-38 «Compakt» нямецкай вытворчасьці калібру 9 мм. Тэхнічна спраўны, да стральбы прыдатны, агнястрэльнай зброяй не зьяўляецца. Адабраныя разам з рэвальвэрам патроны ёсьць спэцыяльныя рэвальвэрныя калібру 9 мм, якія наладаваныя шротавым зарадам і прызначаюцца для адстрэлу дробных грызуноў і зьмеяў.



Савіцкі А.М. — Сынок, які атрымаў умоўнае пакараньне за рэвальверны стрэл па дзецях

Фота Ул.ШЛАПАКА

### Прысуд

Ацэньваючы ўсе сабраныя па справе доказы, суд Савецкага раёну Менску пад старшынствам Дашука палічыў, што віна падсуднага ў злосным хуліганстве ўстаноўленая і даказаная. Што датычыцца зброі, то наладаваныя шротам рэвальвэрныя патроны калібру 9 мм боепрыпасамі суд не прызнаў і ў дзеяньнях Савіцкага Андрэя злачынства не знайшоў. Вырашаючы пытаньне пра наяўнасьць юрыдычнага паняцьця «зьнявечаньне твару ў пацярпелага Запарожца», суд прыйшоў да высновы, што, нягледзячы на наяўнасьць мэдыцынскага паняцьця згодна з судова-мэдыцынскай экспэртызай, юрыдычнае паняцьце «зьнявечаньне» адсутнічае, паколькі выгляд пацярпелага ў выніку нанясеньня яму пашкоджаньняў істотна не зьмяніўся. У выніку суд, улічыўшы ўсе характарыстыкі падсуднага і ступень небясьпечнасьці ажыцьцёўленага злачынства, вырашыў, што Савіцага Андрэя можна выправіць без ізаляцыі ад грамадзтва. Па крымінальнай справе «непаўналетнія Запарожац, Патапенка, Шавель, Матушэўскі супраць гр. Андрэя Савіцкага» апошні судом быў апраўданы, але прызнаны вінаватым у злосным хуліганстве і асуджаны да 4 гадоў пазбаўленьня волі. Але пакараньне суд прызначыў лічыць умоўным.

### На ўсё астатняе жыцьцё

Савіцкаму-малодшаму пашанцавала. За абстрэл школьнікаў шротавымі набоямі — пара дзён адсідкі ў камэры часовага затрыманьня. Яму нават вернуць яго чорны рэвальвэр — вось толькі зарэгіструюць у адпаведным аддзеле міліцыі. Другая справа бацькі абстраляных школьнікаў. Яны засталіся вельмі незадаволеныя выракам судзьдзі і ў будучыні спадзяюцца на адпаведную сатысфакцыю.

Каб партрэт «героя» быў поўны, варта напрыканцы прыгадаць некалькі выказваньняў Сынка ў размове з журналістам.

***Журналіст**:...Вы сказалі, што першым да гвалту заклікаць ні ў якім разе ня будзеце, пазьней запатрабавалі адправіць студэнтаў акадэміі ў будбат...*

***Савіцкі**: Іх і трэба адправіць у будбат. Калі чалавек камусьці ўскрывае жывот, няўжо пакінуць яго як рэалізатара свабоды без пакараньня? Гвалт неабходны.*

***Журналіст**: Яны нікому не ўскрывалі жывата. Існуе цудоўны прынцып — нельга судзіць чалавека за нязьдзейсьненае злачынства.*

***Савіцкі**: Дэмакратыя, у тым пляне, у якім яна ў нас разьвіваецца, — гэта заўсёды двайны рахунак. Я ў гэтым глыбока перакананы. Адным даруецца ўсё, іншых за значна меншае пачынаюць тэрарызаваць».*

І сапраўды, Сынку Савіцкага даруецца тое, за што іншы сядзеў бы ў турме. ■



Дом Савіцкіх. Тут Сынок стрэліў у падлеткаў шротам

Фота Ул.ШЛАПАКА

© НАВІНЫ. Спасылка на газету НАВІНЫ абавязковая. Рэдакцыя можа не падзяляць меркаваньні аўтараў, публікаваць артыкулы дзеля палемікі. Адрас: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173. Пасведчаньне аб рэгістрацыі № 996
Выдаецца з 16 студзеня 1998 г. В.а. галоўнага рэдактара і заснавальнік Павел Жук. Выдавец — рэдакцыя газеты НАВІНЫ. Адрас для карэспандэнцыі: 220034, г. Мінск, вул. З.Бядулі, 6-47. Тэл./факс: 236-89-40.
E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by Надрукавана на паліграфічнай фабрыцы «Чырвоная зорка» (г.Мінск, 1-шы Загарадны завулак, 3) Заказ 558 Нумар падпісаны ў друк 14/06/99 (15:00) Наклад — 17.430